

Інфармацыйны бюлетэнь г. Ашмяны

# Грамадзянскі ФОРУМ

The bulletin is made up on the equipment given by US Information Agency (USIA)

№11 (17) 1 – 15 июня, 2000 года

# Планы перамяніліся. «Дыялог» уладзе па душы.

***"У нас нараджаецца новы сацыяльны інстытут. Грамадства набывае цывілізаваны інструмент дасягнення згоды і стабільнасці..."***

Такую заяву зрабіў А.Лукашэнка падчас сустрэчы з прадстаўнікамі "грамадска-палітычнага дыялога" ў мінулы аўторак.

"Новы сацыяльны інстытут" – гэта сам "дыялог". Трэба разумець, А.Лукашэнку спадабалася ягоная праца, і было вырашана захаваць яго надалей. Нагадаем, што 18 траўня падчас сустрэчы з парламентарыямі Беларусі і Расіі А.Лукашэнка заявіў пра хуткае заканчэнне дыялога. Курс хутка змяніўся – ягоныя арганізатары ўжо кажуць пра заканчэнне толькі "першага этапу".

Прадстаўнікі 110 арганізацыяў, што ніколі не мелі асаблівых прэтэнзіяў да рэжыму А.Лукашэнкі, збіраліся на працягу двух месяцаў, нешта нібыта вырашалі, пясціліся пад сафітамі тэлевізійных камераў БТ.

Вынік – больш чым сціплы. Замест абяцаных больш чым 55 папраў у Выбарчы кодэкс (праўда, большая частка з іх адстойвае выключна інтарэсы грамадскіх рганізацыяў) А.Лукашэнку было прапанавана да разгляду толькі 16. Болей таго, А.Лукашэнка адразу папярэдзіў удзельнікаў дыялога, што не ўсе 16 паправак будуць прынятыя парламентам. Такім чынам, усе прапановы дыялога мусяць прайсці праз парламенцкае і прэзідэнцкае "сіта". Трэба разумець, што ніводная з прапановаў, якая не спадабаецца А.Лукашэнку, не будзе прынятая ў якасці папраўкі.

Чым запомніўся дыялог? Неверагоднай прагай ягоных удзельнікаў да ўлады. Як ім падабалася нешта вырашаць – нібыта на дзяржаўным узроўні! Дыскутаваць, палемізаваць, рабіць гучныя заявы – у спадзяванні, што іх заўважаць, адзначаць і забяруць наверх, да сябе. Неўзабаве пачнуцца парламенцкія выбары, і практычна кожны ў зале паседжанняў дыялога марыць пра цёпленькае дэпутацкае месцейка. Тым больш, што з гэтай восені парламент будзе працаваць на прафесійнай аснове. Кожны дэпутат будзе шчаслівы атрымоўваць міністэрскі заробак. Але не ў кожнага "дыялаганта" будзе магчымасць увайсці ў парламент – на ўсіх не хопіць месцаў. Прызавуць самых адданых.

Парадокс у тым, што, згодна з беларускім заканадаўствам, грамадскія аб'яднанні не маюць права займацца палітыкай. Тым не менш, усе гэтыя людзі вельмі прагнуць грамадскага прызнання. Таму іхнія выступы падчас дыялога мелі вельмі малое дачыненне да той праблемы, дзеля якой усе яны, уласна кажучы, і сабраліся – да ўдасканалення Выбарчага кодэкса. Трыбуна дыялога выкарыстоўвалася яго ўдзельнікамі з мэтай напрамую паразмаўляць з А.Лукашэнкам.

Цікава, што і А.Лукашэнка выкарыстаў нагоду дыялога, каб давесці да публікі зусім іншыя праблемы. У прыватнасці, ён раскрытыкаваў паездку групы апазіцыйных палітыкаў у ЗША: "Прадстаўнікі крайне радыкальнай апазіцыі за акіянам... яны думаюць пра грошы... на звяржэнне існуючай "нелегітымнай улады". Што ж, мы гатовыя і да такіх выклікаў. У бліжэйшы час такая пазіцыя знойдзе ацэнку ў Савеце бяспекі нашай дзяржавы. Па меншай меры, спакойна на такія рэчы глядзець нельга".

А.Лукашэнка распавёў таксама пра ўсё большае міжнароднае прызнанне "дыялога", у тым ліку – і Арганізацыяй па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе. Каб пацвердзіць гэта, ён даў слова старшыні Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі Хансу-Георгу Віку.

Спадар Вік зачытаў заяву, якая ўтрымлівала "крытычныя" патрабаванні да Беларусі: уключэнне давераных асобаў ад палітычных партыяў у склад Цэнтрвыбаркама і іншых выбарчых камісіяў, забеспячэнне празрыстасці выбараў і вызначэнне статусу назіральніка, доступ апазіцыйных партыяў да электронных СМІ, пашырэнне паўнамоцтваў новага парламента, а таксама ўстанаўленне "перыяду міру" напярэдадні выбараў – г.зн. спыніць пераслед грамадзянаў па палітычных матывах і дазволіць беспeрашкоднае правядзенне дэманстрацыяў і партыйных мітынгаў.

Толькі на гэтых умовах, па словах Х.-Г. Віка, Захад пагодзіцца прыслаць на выбары сваіх назіральнікаў. Еўропа і ЗША змогуць прызнаць новы парламент легітымным, толькі калі выбары ў Беларусі будуць свабоднымі, дэмакратычнымі і справядлівымі.

Выступ спадара Віка нечакана выклікаў вельмі нервовую рэакцыю А.Лукашэнкі. Ён пачаў крычаць на кіраўніка місіі і кідаць яму абвінавачванні. Са словаў Аляксандра Лукашэнкі, у прыватнасці, вынікала, што калі б не ён і не ягоныя сакрэтныя перамовы з Х.-Г. Вікам, то былы прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір атрымаў бы прысуд не тры гады ўмоўна, а 5 альбо нават 15 гадоў за кратамі. "Пакланіцеся Сукалу (Валянцін Сукала — старшыня Вярхоўнага суда Беларусі. – аўт.) і суддзям, што вялі той працэс!" – пажадаў А.Лукашэнка.

Тым не менш, А.Лукашэнка паабяцаў правесці выбары "так, каб не толькі сп.Вік, але і камар носа не падтачыў". "Галоўным вынікам усёй нашай сумеснай, вялікай працы мусіць стаць правядзенне свабодных, дэмакратычных, прызнаных міжнароднай супольнасцю парламенцкіх выбараў.

*Працяг на стар. 2*

*Пачатак на стар. 1*

Вы хочаце, як вы кажаце, справядлівых выбараў. Я хачу таго ж – іншага не будзе, яго проста не дадзена. Бо я занадта паважаю свой народ, і здзекавання над ягоным сумленнем не пацярплю", – заявіў Аляксандр Лукашэнка.

Насамрэч матывы ў яго зусім іншыя. Калі Захад зноў не прызнае новаабраны парламент, то гэта будзе вельмі істотным правалам на знешнепалітычным накірунку. Сябраваць з Захадам усё ж трэба – гэта А.Лукашэнка добра разумее. Але і цалкам адмовіцца ад сваёй пазіцыі, пайсці на ўсе ўмовы міжнароднай супольнасці для яго немагчыма. Таму робяцца намаганні імітаваць тую дзейнасць, якую ад яго патрабуюць.

Захад чакае рэальных перамоваў – праводзіцца дэкаратыўны кансультатыўны дыялог, патрабуецца эфір для апазіцыі ў электронных СМІ – "Панарама" на паўхвіліны выпускае на экран С.Шушкевіча і г.д. Калі ўсё будзе працягвацца такім жа чынам, то няма чаго чакаць і ад "удасканалення" Выбарчага кодэкса. Ён застанецца прынцыпова такім жа непаўнавартасным – адбудуцца толькі дробныя змяненні.

Як паведаміў журналістам прэзідэнцкі памочнік Сяргей Посахаў, папраўкі да яго мусяць быць прынятыя не пазней за 25-27 чэрвеня, інакш яны не будуць дзейснымі падчас восеньскіх выбараў. Затое А.Лукашэнка паабяцаў паўплываць на дэпутатаў палаты прадстаўнікоў, каб тыя не марудзілі з прыняццем папраўак і зрабілі гэта "за 1-2 дні". Ён нават сказаў, што папярэдне дамовіцца з кіраўніцтвам свайго парламента – каб гарантаваць поспех.

**Диалог как жанр соцреализма.**

Совершенно очевидно, что так называемый "общественно-политический диалог" помощники главного лица государства на желаемый Монблан поднять не сумели – подобно знаменитому камню Сизифа "диалог" скатился к нулевому уровню.

"Бесталанный спектакль", "театр одного актера", "тусклые огни рампы" и тому подобные оценки зрителей свидетельствуют о неудаче плохо сыгранной постановки. Телеверсия же встречи "представителей партий и организаций" с А.Лукашенко в конференц-зале Дворца Республики вообще представила общественную сторону "диалога" репликами (вроде эпизодических "Кушать подано-с!" или "Как вы умны, мессир!").

Понятно, что экономия телевремени на массовых героях позволила передать без лакун все монологи властной стороны. Причина неудачи, увы, имела врожденный порок – режиссеры от вертикали ставили "диалог" в классических канонах соцреализма, то есть стремились показать то, что по душе власти. Соответственно спектр предложений, высказанных простодушными представителями общественных организаций, остался для зрителя неизвестен. Может приглашенные общественники и не высказывали ничего кроме признательности за приглашение побывать на шестом этаже нового дворца, а может и высказывали что-либо по экономическим вопросам, как, например, свое желание видеть проекты декретов перед их утверждением первым лицом исполнительной власти. Хотя такие дерзкие желания, надо признать, не имеют отношения к поискам политического согласия в обществе, ради которого "диалог" широко рекламировался и даже был украшен вывеской "аншлаг".

Главную задачу участники диалога, по официальной версии, видели в улучшении для партий и избирателей нового Избирательного кодекса. Чтобы Кодекс не помешал народу избрать самых честных, справедливых и умных сынов и дочерей в состав законодателей. Но, как верно заметил один из участников диалога, известный писатель-фантаст Александр Потупа, Избирательный кодекс – дело второстепенное, а главное дело – разделение властей, система государственных институтов, системно-контрольные задачи. Однако такие возвышенные проблемы, с явными признаками покушения на полномочия А.Лукашенко, не попали в поле обсуждения участников диалога.

Иначе говоря, зачем столько людей собирались вместе на шестом этаже – Бог весть. Единственная внятная цель — вместе послушать комментарии первого лица государства относительно "двойных стандартов Запада", ошибок господина Вика и происков оппозиционеров, которые съездили в Америку. Вот они и оказались главными виновниками всех будущих бед народного хозяйства.

Женским своеобразием было отмечено выступление г-жи Ольги Абрамовой (белорусское "Яблоко"), которая предложила освободить диалог от политики и считать всех его участников "миротворцами", поскольку миротворцев благословляют все мировые конфессии. Другими словами, этот диалог может претендовать как минимум на благословение со стороны патриарха Русской православной церкви. "Яблоко" с исключительным благородством по отношению к властям не пожелало быть яблоком политического раздора: будь с родиной что угодно – лишь бы не было войны.

Показательно, что А.Лукашенко решил заверить участников "диалога", что проведет выборы таким образом, что комар носа не подточит. То есть в том смысле, что будет честно, чисто, прозрачно. В это легко поверить, памятуя референдумы по поправкам к Конституции, по символике и языку. Невозможно не порадоваться идее превращения "диалога" в постоянно действующий институт нашей общественной жизни. Это не только покажет Западу размах нашей демократии, но, несомненно, оживит наше унылое БТ.

Благодаря пропаганде благотворного воздействия диалога на обмен мыслями, БТ уже показало людей, которых уже никто не надеялся увидеть на телеэкране. Так, в течение 80 секунд зрители видели и слушали Шушкевича, пока ему не отключили микрофон за дерзость речений. В связи с диалогом выступали перед телеаудиторией два коммуниста от партий ортодоксального и нового направлений. Ортодокс Виктор Чикин пожаловался на бедность партии коммунистов, которую возглавляет он, на что секретарь ЦК второй компартии Сергей Калякин с радостью ответил, что бедность отражает уровень доверия народа. После чего оба приверженца социальной справедливости проявили исключительную силу воли, чтобы не начать между собой гражданскую войну.

Среди поправок, о которых спорят участники диалога, есть очень милые, вызванные чувством глубокой ностальгии по делам давно минувших дней. Например, о норме численности трудового коллектива, необходимой для выдвижения на общем собрании кандидата на выборы в Национальное собрание. Эксперты обсуждают, сколько должно быть в трудовом коллективе трудящихся, чтобы получить это величайшее право: тысяча человек или триста, или семьсот. Правда, уже нет в природе колхозов с коллективом в 1.000 или хотя бы в 100 человек, а без них рабочий класс получит как бы преимущество перед трудовым крестьянством.

В целом диалог вернул всех в добрые старые времена широкомасштабных государственных постановок, весьма похожих на известную комедию В.Шекспира "Много шума из ничего".

***По материалам сайта «Наша Свабода».***

# Наша свабода Новости

З 1 чэрвеня ўсе прадпрыемствы, якія пры выпуску прадукцыі выкарыстоўваюць сімволіку Брэста, павінны плаціць штогадовы збор у гарадскі бюджэт у памеры 50 мінімальных заробкаў. Апроч таго, арганізацыя выпуску прадукцыі з сімволікай памежнага горада павінна рабіцца выключна са згоды прэзідыума гарадскога Савета народных дэпутатаў. Такое рашэнне было прынятае на апошняй сесіі гарсавета. З 1 чэрвеня ў Брэсце ўводзіцца шэраг іншых мясцовых падаткаў і збораў для фізічных і юрыдычных асобаў. Фізічным асобам давядзецца плаціць падатак на рэкламу — 5 працэнтаў ад платы за размяшчэнне рэкламы або інфармацыі ў СМІ, а таксама збор на ўтрыманне і развіццё інфраструктуры горада. Дэпутаты мяркуюць, што такімі новаўвядзеннямі змогуць павялічыць даходную частку гарадскога бюджэту, які напаўняецца сёлета вельмі цяжка.

**Камітэт па міжнародных справах Сената ЗША 7 чэрвеня аднагалосна рэкамендаваў Сенату прыняць рэзалюцыю па Беларусі №304.** Гэта знакамітая рэзалюцыя ўжо не раз узгадвалася беларускімі СМІ і была прынятая Палатай прадстаўнікоў Кангрэса ЗША. У ёй асуджаецца грубае парушэнне правоў чалавека ў Беларусі, даецца жорсткая характарыстыка рэжыму, прапануюцца меры для вяртання краіны на шлях дэмакратыі. Такая ж прыкладна рэзалюцыя прапанаваная да прыняцця і па Расіі. У пастанове камітэта, прынятай аднагалосна, рэкамендавана, каб гэтыя два дакументы былі зацверджаныя Сенатам у поўным аб'ёме. Чакаецца, што рэзалюцыі будуць прынятыя на наступным тыдні.

**Прэзідэнт Біл Клінтан паведаміў кіраўніцтву абодвух палатаў Кангрэса ЗША і дзяржсакратару Злучаных Штатаў аб сваім рашэнні працягнуць у адносінах да Беларусі дзеянне рэжыму нармальных гандлёвых адносінаў (РНГА) з ЗША яшчэ на адзін год.** Працяг РНГА ў адносінах да Беларусі азначае, што яшчэ на працягу аднаго года на Беларусь не будуць распаўсюджвацца абмежаванні, прадугледжаныя папраўкай Джэксана-Веніка ў закон аб гандлі 1974 года.

**Дарагое імпартовае праслухоўваючае прыстасаванне было падключанае да тэлефоннага кабеля кватэры старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі.** Прыстасаванне знаходзілася паміж трэцім і другім паверхамі, яго выпадкова знайшоў тэлефонны майстар, які рамантаваў на гэтай лесвічнай пляцоўцы камунікацыйную сетку. Сп. Лябедзька не вельмі здзівіўся знаходцы, назваўшы яе яшчэ адным доказам існавання дыктатуры на Беларусі. У бліжэйшы час ён плануе звярнуцца ў пракуратуру горада з запытам, ці давала яна санкцыю на праслухоўванне, і калі не, дык запатрабаваць узбуджэння па гэтым факце крымінальнай справы.

**2 июня в Центре современного искусства в Замке Уяздовском (Варшава) открылась выставка "Новое искусство Беларуси", которая продлится до 2 июля.** Этот проект представил работы авторов, уже известных за пределами Беларуси — многие получили образование и выставлялись в европейских столицах. Свои работы в жанре видеоарта, инсталяции, фотографии, живописи представили Игорь Савченко, Ольга Сазыкина, Артур Клинов, Андрей Дурейко, Максим Тиминко, Витольд Левченя, Алексей Логинов, Сергей Кунаев, Игорь Тишин, Наталья Залозная, Василий Васильев, Ольга Масловская и Роман Тротюк (группа "Бергамот"), Алесь Пушкин. Куратор проекта — Эулалия Домановска.

**Агульная сума запазычанасці па заработнай плаце прадпрыемстваў і арганізацыяў Магілёўскай вобласці перавысіла 2,5 мільярда беларускіх рублёў і склала 13,5% у фондзе заработнай платы.** У параўнанні з папярэднім тыднем сума запазычанасці павялічылася на 17,5%. Больш за 880 мільёнаў рублёў доўгу прыпадае на зарплату, выплата якой пратэрмінаваная больш чым на 30 дзён. Работнікі 50 калгасаў і саўгасаў Магілёўскай вобласці ў апошні раз атрымалі заработную плату ў студзені.

**Днямі дыпламатычны склад ізраільскай амбасады ў Беларусі вярнуўся ў Мінск.** Нагадаем, што 17-18 траўня ўвесь дыпламатычны склад амбасады раптоўна адбыў на радзіму, як было заяўлена, "па тэхнічных прычынах". Іх ад'езд многія напрамую звязалі з чуткамі аб пагаршэнні радыяцыйнай сітуацыі ў Мінску. Як тлумачыць прэсслужба амбасады Ізраіля, ад'езд дыпламатаў быў выкліканы "неабходнасцю правядзення медыцынскага абследавання з-за нявызначанасці з радыяцыйнай сітуацыяй, што склалася на той час". Цяпер усе супрацоўнікі амбасады вярнуліся ў Мінск, і дыпламатычнае прадстаўніцтва працуе ў звычайным рэжыме.

**Пастановай міністэрства эканомікі Беларусі ўдвая павялічаныя тарыфы на электраэнергію для насельніцтва.** Насельніцтва гарадоў, якое жыве ў дамах з газавымі плітамі, будзе плаціць 7,2 рубля за кілават, насельніцтва гарадоў, якое жыве ў дамах з электраплітамі, а таксама жыхары сельскай мясцовасці — 5,2 рубля. З пачатку года тарыфы ўзраслі ў 5,1 раза, тады як спажывецкія цэны ў цэлым — у 1,5 раза.

**На чыгуначнай станцыі ў Баранавічах адбылася ўцечка дыпраксаміну — атрутнай і лёгкай на загаранне вадкасці — у саставе, які накіроўваўся з Брэста ў Казахстан.** Небяспеку сітуацыі ўстанавілі выкліканыя спецыялісты радыяцыйна-хімічнай разведкі. На станцыі знаходзіліся 112 столітровых бочак з дыпраксамінам і ад злучэнняў атрутнага рэчыва з паветрам у любы момант мог адбыцца выбух. Ратавальныя каманды перагналі вагон на бяспечную адлегласць. Месца ўцечкі было нейтралізаванае.

**Выступая в Атланте, штат Джорджия, Генеральный секретарь ООН сказал, что миротворческие силы ООН обязаны иметь достаточное количество военнослужащих для выполнения своего мандата.** "Тяжелое вооружение необходимо для показа боевой мощи, чтобы противники мирного процесса даже не думали о противостоянии".

**Месяцам чыстага паветра абвясцілі ў Брэсцкай вобласці першы месяц лета чэрвень.** Экалагічная аперацыя "Чыстае паветра" праводзіцца абласным камітэтам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя сумесна з органамі Дзяржаўтаінспекцыі. Летась прадпрыемствамі вобласці ў атмасферу выкінута 364 тысячы тонаў шкодных рэчываў, што вельмі заклапочвае экалагаў. Асоба складаная сітуацыя з аховай навакольнага асяроддзя склалася на прадпрыемствах, якія зведваюць фінансавыя праблемы. Менавіта па згаданай прычыне дагэтуль не змантаваная ўстаноўка ачысткі паветра на Бярозаўскім камбінаце будаўнічых вырабаў, на Бярозаўскай ДРЭС не ўкаранёная сістэма двухступенчатага спальвання паліва.

**Як нездавальняючую ацаніў якасць будаўніцтва Лядовага палаца фізкультуры і спорту "Магілёў" віцэ-прэм'ер беларускага ўрада Генадзь Навіцкі.** Наведваючы лядовую арэну, у адкрыцці якой, прызначаным на 10 чэрвеня, збіраецца ўзяць удзел Аляксандр Лукашэнка, Генадзь Навіцкі знайшоў мноства недаробак: ужо абваліўся месцамі тынк, мокрая пасля дажджу столь, няякасная пафарбоўка, брак у аддзелцы раздзявальняў і туалетаў. Паводле словаў Г.Навіцкага, Лядовы палац "Магілёў" пакуль зусім не гатовы да ўрачыстага адкрыцця і эксплуатацыі.

**Швейцарскія ўлады рыхтуюцца прад'явіць абвінавачванне ў карупцыі дзвюм дочкам першага расійскага прэзідэнта Барыса Ельцына.** Пра гэта паведаміў часопіс Newsweek. Таццяна Дзьячэнка і Алена Акулава фігуруюць сярод 14 асобаў, якія маюць дачыненне да справы вядомай швейцарскай кампаніі "Мабетэкс" - яна ў свой час займалася рэканструкцыяй Крамля. Днямі генеральны пракурор Жэневы Бернар Бартоса паскардзіўся на адсутнасць супрацоўніцтва з расійскім правасуддзем. У інтэрв'ю італьянскай газеце Corriere Della Serra ён зазначыў, што за публічнымі заявамі пра гатоўнасць да дыялога, "прасторы для супрацоўніцтва няма ніякай". У першую чаргу Б.Бертоса мае на ўвазе справу "Мабетэкс".

**5 чэрвеня прэзідэнт ЗША Біл Клінтан прыбыў з рабочым візітам у Кіеў, дзе ў Марыінскім палацы сустрэўся з прэзідэнтам Украіны Леанідам Кучмам.** Гэты візіт Клінтана прэзідэнт Украіны назваў "знакавай падзеяй". Кіеў разлічвае на актыўную дапамогу ЗША ў пытанні закрыцця Чарнобыльскай АЭС і атрымання неабходных для гэтага грошай.

**У Магілёве аб'яўленая ў свабодны продаж уласнасць, канфіскаваная ў былога міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі Васіля Лявонава.** Нагадаем, што ён быў асуджаны Вярхоўным судом Беларусі на 4 гады пазбаўлення волі нібыта за крадзяжы і злоўжыванні ўладай падчас працы на пасадзе міністра. Крымінальная справа В.Лявонава, на думку многіх назіральнікаў і праваабаронцаў, насіла палітычны характар і была абумоўлена асабістай непрыязнасцю да яго з боку вышэйшай службовай асобы дзяржавы. Аб'яўленне камісіі па канфіскаванай маёмасці апублікавалі афіцыйныя магілёўскія газеты. Згодна з гэтым дакументам, прадаецца дача ў вёсцы Міхайлаўка Круглянскага раёна Магілёўскай вобласці. Дом з лазняй, гаражом, гаспадарчай пабудовай і падвалам ацэнены прыкладна ў 4,5 тысячы долараў ЗША.

# Дзяржкамдрук ідзе вайной на прэсу

Перад самым адыходам на адпачынак старшыня Дзяржкамдруку Міхаіл Падгайны нанёс сакрушальны ўдар па двух незалежных выданнях: "Народнай волі" і "Белорусской деловой газете". 29 траўня названыя газеты атрымалі па два папярэджанні запар. Каторы раз "журналісцкае ведамства" для расправы над няўгоднымі СМІ выкарыстоўвае артыкул пяты "Закона аб друку" — "Недапушчэнне злоўжывання свабодай масавай інфармацыі".

Найперш Дзяржкамдрук абвінавачвае "Белорусскую деловую газету" ў "распальванні нацыянальнай нецярпімасці". "Распальванне нацыянальнай нецярпімасці" ведамства М.Падгайнага ўгледзела ў артыкуле Сямёна Букчына "Кадзіш над Біркенаў", надрукаваным 15 лютага, і ў адказе на гэтую публікацыю намесніка старшыні Саюза палякаў Тадэвуша Малевіча "Ад польскага антысемітызму да яўрэйскага антыпаланізму". Такую ж крамолу Дзяржкамдрук угледзеў і ў лісце чытача М.Урублеўскага "Мы не статак баранаў", які з'явіўся на старонках "БДГ" 7 сакавіка. "Згаданы ліст утрымлівае выказванні, якія зневажаюць гонар грамадзянаў Рэспублікі Беларусь рускай нацыянальнасці і іншых нацыянальнасцяў, якія карыстаюцца ў побыце адной з дзвюх дзяржаўных моваў Рэспублікі Беларусь — рускай мовай", — гаворыцца ў папярэджанні. "Калі мы хочам, каб нацыя захавалася, а нашыя дзеці і ўнукі жылі лепей за нас, — ніякіх саюзаў з Расійскай імперыяй. А галоўнай задачай унутры краіны павінна стаць асіміляцыя рускіх" — гэтае і падобныя выказванні Дзяржкамдрук расцэньвае — ні больш, ні менш — як стварэнне "негатыўнага вобразу часткі грамадзянаў РБ, якія адносяцца да рускай нацыянальнасці альбо гавораць на рускай мове".

Папярэджанні на адрас "Народнай волі" сфармуляваныя яшчэ абсурдней. Першае газета атрымала за невялікі матэрыял намесніка рэдактара Івана Макаловіча, дзе ў адным з абзацаў ён задаецца рытарычным пытаннем "...Можа, варта звярнуцца па дапамогу да НАТА?", што расцэнена дзяржкамдрукаўскімі чыноўнікамі як "заклікі да захопу ўлады, сілавога змянення канстытуцыйнага ладу".

Другое ж увогуле не паддаецца ніякаму тлумачэнню. Намеснік старшыні Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі БНФ Сяргей Папкоў напісаў артыкул — "Народная воля" яго надрукавала. Дзяржкамітэт па друку, "ничтоже сумняшеся", заяўляе, што КХП-БНФ не зарэгістраваная ў мінюсце, а значыць, яе прадстаўнікі не маюць права выступаць у прэсе. Але ж КХП-БНФ атрымала пасведчанне аб рэгістрацыі яшчэ сёлета ў лютым. І "БДГ", і "Народная воля", паводле вынесеных папярэджанняў, маюць права ў месячны тэрмін абскардзіць іх у Вышэйшым гаспадарчым судзе.

Спадзяванні супрацоўнікаў "Народнай волі" на тое, што атрыманыя папярэджанні — чыясьці правакацыя (яны надрукаваныя на ксеракопіях бланкаў Дзяржкамдруку), не апраўдаліся.

Галоўны спецыяліст юрыдычнага аддзела Раман Антонаў 31 траўня пацвердзіў факт вынясення папярэджанняў. Прычым яны вынесеныя не адначасова – проста ўсе чатыры падпісаныя 24 траўня. Больш за тое, Р.Антонаў патлумачыў, што "Народная воля" атрымала папярэджанне за публікацыю Сяргея Папкова ("распаўсюджванне інфармацыі ад імя палітычных партыяў, прафесійных саюзаў ці іншых грамадскіх аб'яднанняў, якія не прайшлі ва ўстаноўленым парадку дзяржаўную рэгістрацыю (перарэгістрацыю)") на падставе ліста з мінюста, у якім сцвярджаецца, што КХП-БНФ не прайшла перарэгістрацыю. Смешна думаць, што мінюст не ведае, што тварыцца ў яго епархіі.




Праз два дні гісторыя з папярэджаннямі "Народнай волі" атрымала нечаканы паварот. 31 траўня, пасля сустрэчы рэдактара Іосіфа Сярэдзіча са старшынёй Дзяржкамдруку Міхаілам Падгайным, апошні вымушаны быў падпісаць загад аб адмене абодвух папярэджанняў. М.Падгайны патлумачыў вынесеныя папярэджанні "нерадзівасцю" сваіх падначаленых. І хоць настырны І.Сярэдзіч дамогся адмены папярэджанняў, Дзяржкамдрук празрыста даў зразумець незалежнаму друку, хто ў "журналісцкім" доме гаспадар.

Намеснік галоўнага рэдактара "БДГ" Святлана Калінкіна расцаніла атрыманыя папярэджанні наступным чынам: "Мы яшчэ з месяц таму пісалі, што ў бліжэйшы час па любой надуманай прычыне нам рыхтуюцца вынесці папярэджанне і будуць рыхтаваць нашу газету да закрыцця. Абвінавачванні фармальна сур'ёзныя, але малейшы аналіз паказвае, што іх рыхтавалі юрысты-гумарысты... Папярэджанні нявартыя і выедзенага яйка. Але ёсць палітычны заказ. Напярэдадні парламенцкіх выбараў і, магчыма, прэзідэнцкіх, ідзе зачыстка тэрыторыяў, і "БДГ" патрапіла пад гэтую зачыстку". "БДГ" збіраецца судзіцца з Дзяржкамдрукам. Дзеля гэтага рэдакцыя прыцягвае ў якасці экспертаў супрацоўнікаў польскага ды ізраільскага пасольстваў у Мінску, а таксама расійскіх вучоных, якія займаюцца праблемамі станаўлення рускага этнасу.

КНГ АБСЕ мела рацыю, калі сцвярджала ў нядаўна абнародаваным аналізе беларускай прэсы за мінулы год, што з набліжэннем парламенцкіх выбараў ціск улады на незалежныя СМІ ўзрасце стократ.

***Па матэрыялам сайта «Наша Свабода»***

Адразу тры навіны прыйшлі ад сям'і экспрэм'ера Міхаіла Чыгіра. Першая – гарадская пракуратура заявіла пратэст на прысуд, што быў вынесены Міхаілу Чыгіру гарадской калегіяй суддзяў на чале з Аляксандрам Васілевічам. Пракуратура нязгодная з тым, што суддзі апраўдалі Чыгіра па ўсіх акрамя аднаго эпізодаў абвінавачвання і пакінулі яго на волі. Нагадаем, пракуратура прасіла суд даць Чыгіру пяць гадоў турмы і цяпер настойвае на перагляд[з]дзе справы.

# Пракуратура скардзіцца, што Чыгіру «далі мала»

Другая навіна тычыцца падзеяў 19 траўня, калі быў вынесены прысуд экс-прэм'еру. Тады на ганку суда жонка Чыгіра Юлія Станіславаўна, абараняючыся ад схапіўшага яе міліцыянта, укусіла яго за вуха. Паводле звестак з пракуратуры Фрунзенскага раёна Мінска, супраць Юліі Чыгір узбуджаная справа, яна падазраецца ў аказанні супраціўлення міліцыі. Між тым Юлія Чыгір сама пацярпела ад міліцыянта, аб чым сведчыў велізарны сіняк на яе руцэ. Аднак лёс яе скаргі пакуль не вызначаны. Старшы следчы Фрунзенскай пракуратуры Дзмітрый Шкарупа, якому даручана гэтае расследаванне, сказаў, што "ў межах справы супраць Чыгір правяраецца і яе заява". Цікава, што следчы адмовіўся назваць прозвішча міліцыянта, якога пакусала жонка экс-прэм'ера.

І апошняя з навінаў – невядомыя злодзеі забраліся ў дом, дзе жылі бацькі Міхаіла Чыгіра. Гэта на ўскраіне вёскі Усава Капыльскага раёна, дзе знаходзіцца славутая пасека Чыгіра. Гэта не першае наведванне злодзеяў у зачынены дом, але гэты візіт здзівіў як ніякі. Хата была адчыненая ключом і ўсе рэчы былі, як кажуць, "прашмананыя". Зніклі тры мяхі цукру, назапашанага для падкормкі пчолаў, і яшчэ некаторыя рэчы. Міхаіл Чыгір напісаў у міліцыю заяву, але ён не ўпэўнены, што злодзей будзе знойдзены. "Вельмі ўжо нетрадыцыйны почырк быў у гэтых рабаўнікоў", – дадаў экс-прэм'ер.



# Кіркораў аблаяў беларускую міліцыю, але мусіў прасіць прабачэння.

Вядомы расійскі выканаўца поп-шлягераў Філіп Кіркораў, які днямі выступаў у Мінскім палацы спорту, публічна аблаяў беларускіх міліцыянтаў, якія былі прызначаныя падтрымліваць парадак на мерапрыемстве. Канфлікт адбыўся па прычынах, стаўшых ужо звычайнымі для Беларусі. Спачатку міліцыянты не дазволілі прымяняць падчас выступу піратэхнічныя прыстасаванні, у выніку чаго канцэрт быў затрыманы больш чым на паўгадзіны, а пасля наводзілі парадак у зале, не даючы гледачам падчас выканання спеваком песень, як ва ўсіх цывілізаваных краінах, уставаць і выражаць свае эмоцыі падтанцоўваннем ці спевамі. Найбольш актыўных "суцішвалі" ў чыста беларускіх традыцыях апошніх гадоў, а некаторым нават пагражалі затрыманнем. Карацей, сядзіце на месцах і пляскайце.

Кіркораў, які бачыў усё гэта са сцэны, не вытрымаў і некалькі разоў пачаў сыпаць не вельмі прыемнымі тырадамі ў бок ахоўнікаў правапарадку. Апошняй кропкай, якая прывяла беларускую міліцыю ў шаленства, стаў эпітэт "палітычныя прастытуткі". Канцэрт працягнуўся, але міліцыянты пасля нядоўгіх развагаў вырашылі затрымаць расійскую поп-зорку з мэтай прад'явіць абвінавачванне "за абразу службовых асобаў пры выкананні імі абавязкаў".

Канфлікт было паспрабаваў уладзіць дырэктар шоу Алег Няпомнячы, але міліцыя, змяўшы асабістую ахову Кіркорава, усё ж узяла спевака пад канвой. Прывёўшы яго ў грымёрную, міліцыянты пачалі патрабаваць ад спевака альбо прасіць прабачэння, альбо праехаць у ізалятар часовага ўтрымання для беларускіх зэкаў. Не на жарт напужаны Кіркораў, у якога да таго ж праз гадзіну адыходзіў цягнік на Маскву, выбраў першы варыянт. Пад міліцэйскія крыкі і насмешкі кшталту: "Не паказвайцеся больш у нас, а то мы..." лімузін спевака ад'ехаў у бок чыгуначнага вакзала.

А на раніцу арганізатары канцэрта, прадзюсерскі цэнтр "Альфа-радыё" прасіў прабачэння... у міліцыянтаў за дрэнныя паводзіны расійскай зоркі падчас канцэрта.

А вось міліцыя ні ў кога прабачэння прасіць і не падумала. Беларускія рэаліі.

*По матэрыялам сайта «Наша Свабода»*

**Лучше впасть в нищету,**
**голодать или красть,**
**Чем в число блюдолизов**
**презренных попасть.**
**Лучше кости глодать,**
**чем прельститься сластями**
**за столом у мерзавцев,**
**имеющих власть.**

**Омар Хайям, 1040-1123.**

# Владимир Ермошин: "Там тоже эти хохлы нас будут обдирать"



9 июня в Одессе главы правительств Украины, Молдовы и Беларуси проведут рабочую встречу, на которой они намерены "сработать в интересах друг друга". Об этом сообщил председатель правительства Беларуси Владимир Ермошин во время своего посещения Гродненской области в минувшую пятницу. Одной из основных целей на этой встрече премьеров ставится достижение прозрачного коридора по перевозке молдавской сельхозпродукции в Беларусь и белорусской — в Молдову.

Владимир Ермошин отметил, что по этой проблеме уже есть политическое решение. Задача же трех премьеров, еще недавно встречавшихся на белорусской земле, найти в Одессе его "формулу" выполнения. Объявлено, что встреча там продлится несколько часов. Видимо, в неформальной обстановке. Говорят, что и без галстуков...

Однако, рассуждая о перспективах трехстороннего сотрудничества по перевозке сельхозпродукции, премьер-министр Беларуси допустил высказывания, которые могут вызвать негативный и скандальный резонанс. Дабы не допустить обвинений в предвзятости, вырванности фраз из контекста выступления, стоит привести цитату сделанного заявления Владимира Ермошина полностью: "Но предупреждаю. Даже если мы все там и подпишем, еще надо будет брать боксерские перчатки и сначала прорываться в Молдавию и оттуда. Потому что, к сожалению, побирают на Брузгах, да и в Чернигове. Там тоже эти хохлы нас будут обдирать. Будем прорываться".

Оказалось, премьер Ермошин владеет всей бытовой нафталинной классификацией в отношении, видимо, всех соседей Беларуси и партнеров по СНГ. И кто "побирает в Брузгах" тоже понятно. После таких высказываний про "хохлов", к чему можно "прорваться", представить нетрудно. Как и непросто такую базарную терминологию из уст главы правительства увязать с широкоизвестной толерантностью белорусов. Впрочем, как сказал по поводу этого высказывания один чиновник, не "бульбашу" -премьеру высказывать такие оскорбительные эпитеты в адрес братьев-украинцев.

Не прошло незамеченным высказывание В. Ермошина среди тех, кого власти называют национал-радикальной оппозицией. Один из членов БНФ отметил, что, выступая против некоторых назначений на руководящие государственные посты приехавших из России русских, белорусские националисты никогда публично не допускали в их адрес прозвищ типа кацапы. А некоторые наблюдатели при этом напомнили о предвзятости властей в отношении оппозиционных СМИ, порою обвиняя последних в разжигании межнациональной розни. Да и после истории с одним известным изданием "Православной инициативы" в Беларуси, по их мнению, высказывание В. Ермошина воспринимается как мрачная закономерность.

Что касается официальной реакции, то посол Украины г-н Анатолий Дронь отказался говорить на эту тему. Узнав, что к нему обращается корреспондент НАШАЙ СВАБОДЫ, он решил дипломатично сослаться на свою занятость. А пресс-атташе посольства г-н Василий Ткаченко сказал, что он этого, по сути скандального, сюжета по первому национальному телеканалу не видел. И поэтому комментировать его не может. Тем не менее, по неофициальной информации, посол А.Дронь был проинформирован о случившемся, и дабы не портить атмосферу встречи в Одессе, обе стороны порешили считать высказывания В. Ермошина досадным недоразумением.

Очевидно, понимая всю пикантность ситуации, в которую попал шеф, пресс-секретарь премьера Иван Знаткевич, в отличие от других чиновников, мужественно признал, что была допущена "досадная оговорка". Надо полагать, случившееся послужит уроком для недавно назначенного премьера.

Однако, все же остается один вопрос, на который пока ответа нет. Скандальное высказывание премьера почему-то 2 июня показывали неоднократно в телевизионных выпусках новостей с завидным упорством. Будто кто-то очень желал, чтобы заметили премьера со всем его красноречием. Не скрывала странной радости на телеэкране по этому поводу и известная дикторша. Известно, какой жесткий контроль за эфиром осуществляется на белорусском телевидении. А одной из причин, по которой оппозицию не пускают в прямой эфир, нередко называется боязнь власть имущих, что представители оппозиции способны своими речами разжигать межнациональную рознь. Поэтому более чем странным выглядит тот факт, что остающиеся пока анонимными цензоры допустили неоднократный показ по ТВ "досадной оговорки" премьер-министра Беларуси.

*По матэрыялам сайта «Наша Свабода»*

# Результаты социологического опроса, проведенного институтом НИСЭПИ в апреле 2000 года.







**Впервые за последние годы рейтинг Лукашенко даже по Беларуси снизился ниже уровня 40%. А число жителей Минска, готовых голосовать за Лукашенко составляет около 17% - 20%.**

***Для справки:*** **в странах Европы катастрофой считается, если рейтинг главы государства падает ниже порога в 70%.**



## Тысячны самазвал

15 чэрвеня на Магілёўскім аўтамабільным заводзе адбылося ўрачыстае мерапрыемства з нагоды выпуску тысячнага самазвала маркі "МаАЗ 75051". Першыя пяць падобных машынаў былі выпушчаныя на Магілёўскім аўтазаводзе ў 1976 годзе. "МаАЗ 75051" — поўнапрывадная машына грузападымальнасцю 23 тоны. Асноўным яе пакупнікам з'яўляюцца расійскія кампаніі, якія займаюцца будаўніцтвам нафтавых свідравінаў, у прыватнасці — у Цюменскай вобласці. Самазвалы прызначаныя для перавозкі сыпучых грузаў і добра зарэкамендавалі сябе ва ўмовах сібірскага бездарожжа і на балоцістых глебах.

***Па матэрыялам сайта «Наша Свабода»***

3 сакавіка 1067

# Бітва на Нямізе
# Першая згадка пра Менск

Праехаўшы пераможцам па ноўгарадзкіх вуліцах, Усяслаў Чарадзей на пачатку 1067 году вырушыў на Новагародак (цяперашні Навагрудак). Гэты горад некалі пабудаваў Яраслаў Мудры, каб заваладаць населеным літвою наваколем і адтуль пагражаць Полацкаму княству. Палачанаў зноў вяла зорка ўдачы. Яны выбілі з Новагародку кіеўскую дружыну і заявілі свае правы на землі літвы. Другая перамога запар страшэнна ўстрывожыла трох сыноў Яраслава Мудрага на чале з кіеўскім князем Ізяславам. У лютым таго ж году, злучыўшы сілы, яны наважыліся перанясць Чарадзея на шляху дадому.

Яраславічы правільна разьлічылі, што вяртацца полацкія дружыны будуць праз Менск - умацаваны горад на паўднёвай мяжы Полацкага княства, і намерыліся апярэдзіць Усяслава. Убачыўшы са сьцен аў вялікае варожае войска, менчукі паставілі ўсё ж бараніцца, бо чакалі, што вось-вось падыйдзе дапамога. Як кажа летапіс, яны «затворішася в граде», але адбіцца ад злучаных сілаў усіх паўднёвых княстваў ня здолелі. Абаронцаў напаткала лютая расправа: усіх мужчын пасеклі, а жанчын і дзяцей узялі «на шчыт», значыцца у палон.

Усяслаў ня мог дазволіць ворагу прарвацца ў глыбіню свае зямлі. Трэйцяга сакавіка войскі полацкага князя і Яраславічаў сышліся паблізу спаленага Менску на рацэ Нямізе. Тыдзень пагрозліва стаялі насупроць адно аднаго ў глыбокім сьнезе, а потым «была сеча лютая і многія палеглі ў ёй». Праз «Слова пра паход Ігаравы» пра тую сечу ведаюць ва ўсім сьвеце. Пераважна з паэтычных радкоў «Слова» і можна сёння ўявіць бітву: адрывістыя загады ваяводаў, сьмяротныя ўдары дзідаў, звон харалужных мячоў, кіпенне крыві на здрасаваным сьнезе і салодкае забыццё параненых, якіх мароз хутка выпраўляў у невараць. Летапісы дадаюць усяго некалікі слоў, праўда, істотных, - пра тое, што сечу пачаў Усяслаў і што ён «бішася крепко».

Кіеўскі летапіс зусім лаканічны: Яраславічы, маўляў, перамаглі, а полацкі князь уцёк. Пакінем гэта на сумленні складальніка летапісу: мо ён ня толькі выконваў волю гаспадароў, але і шчыра хацеў тае перамогі. Дзіўна, аднак, што кіяніну насуперак відавочным фактам вераць паважаныя сучасныя гісторыкі. Вераць, не зважаючы на тое, што войска Яраславічаў ня рушыла далей на Полацак, а замацавала «перамогу» адыходам на свае землі. Усяслаў, хоць і дарагой цанаю, абараніў крывіцкую дзяржаву.

Праз чатыры месяцы ворагі сустрэліся зноў, цяпер каля Воршы. Усяслаў стаяў з дружынаю на правым дняпроўскім беразе, Яраславыя сыны - на левым. Кіеўскі князь прапанаваў разьвязаць спрэчку палюбоўна: даў прысягу, што ня ўчыніць полацкаму валадару ніякага ліха, і замацаваў яе прынародным цалаваньнем крыжа. Абяцанняў хапіла адно датуль, пакуль Чарадзей з двума сынамі не пераехаў 10 ліпеня на чоўне ракі ды не зайшоў без аховы ў шацёр да кіеўскага князя Ізяслава. Той махнуў рукой, наляцелі дружыньнікі, і ў момант вока трое Рагвалодавічаў ляжалі на доле, зьвязаныя вяроўкамі.

Адвёзшы палоньнікаў у Кіеў, іх закавалі ў кайданы і канулі ў жудасную турму-поруб. Намеры Яраславічаў былі зразумелыя: зьвесьці Рагвалодаў корань са сьвету.

Аднак гісторыя разважыла пасвойму. У 1068 годзе на Кіеўскую зямлю ўварваліся полаўцы. Яраславічы выйшлі насустрач і былі ўшчэнт разьбітыя. Кіяне сабраліся на веча й запатрабавалі ад князя коней і зброі. Ізяслаў баяўся, што, перш чым ісьці на полаўцаў, падданыя расквітаюцца зь ім. Вечавыя паслы вярнуліся ні з чым, ды ўгамаваць народ ужо не было як. У разьюшаным чалавечым збоі ўсё часьцей выгуквалі імя зьняволенага ненавісным Ізяславам полацкага князя. Палова натоўпу пабегла да порубу, другая рушыла на князеўскі двор. Кіеўскія баяры раілі свайму гаспадару пасладць верных людзей, каб тыя падманам завабілі Ўсяслава да ваконца і працялі мячом. Ізяслаў не адважыўся - загадаў сядлаць коней.

«Людзі ж вызвалілі Ўсяслава з турмы на пятнаццаты дзень верасьня, - сьведчыць летапіс, - і праславілі яго пасярод княжага двара». Усяслаў Брачыслававіч на сем месяцаў стаў вялікім кіеўскім князем. За гэты кароткі час ён зрабіў імклівы паход на Тмутаракань, набыў там коней, якіх не хапала дзеля адпору «паганым». Напраканцы таго ж году полаўцы адчулі сілу новага кіеўскага ўладара і, разгромленыя, адступілі ў сваё Дзікае Поле. Можа, якраз за тыя сем месяцаў Усяслаў заслужыў у аўтара «Слова пра паход Ігаравы» пахвалу за дзяржаўны розум і справядлівасьць: «Всеслав князь людям судяше, князем грады радяше»?

Чужы горад, ненадзейная дружына, варожае баярства. Адмовіліся плаціць даніну ноўгарадцы, касавурацца суседнія князі. Зьбеглы Ізяслаў таксама не хацеў разьвітацца з вотчынай і набліжаўся да Кіеву з войскам цесьця, польскага караля Баляслава. Чарадзей вёў дружыну на Ізяслава, але праз сотні вёрстаў яго ўладна клікалі званы роднае Сафіі. Пад Белгарадам ён таемна ад кіянаў пакінуў войска і ад'ехаў у Полацак. Князь рыхтаваўся да зацятай барацьбы, якая скончылася ў 1074 годзе выганьнем з Полацку кіеўскага стаўленіка Сьвятаполка.

Знайте свои права

# Распределение. Право или обязанность?



*Выпускник, который закончил полный курс обучения и направлен на работу комиссией по персональному распределению (при наличии удостоверения), считается молодым специалистом и обязан отработать по направлению на работу 2 года со дня заключения трудового договора между ним и нанимателем.*

Вопросы распределения молодых специалистов регулируются Постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 02.04.1997 г. №276 и Положением «О распределении выпускников государственных высших и средних специальных учебных учреждений Республики Беларусь», утверждённом приказом Минобразования №336 от 20.06.1997 г.

**Вы должны знать, что распределение проводится комиссией по персональному распределению, которая обязана:**

1. До начала распределения ознакомить выпускников с местами и планами распределения, заявками на молодых специалистов, с порядком работы комиссии.
2. Решение о распределении принимаются, как правило, в присутствии выпускника.
3. При распределении учитывается желание выпускника.
4. Распределение осуществляется в соответствии с состоянием здоровья выпускника.
5. Супругу работа предоставляется по возможности в том же населённом пункте, где работает второй супруг.
6. Выдать удостоверение о направлении или справку о праве свободного трудоустройства не позднее 5 дней с момента окончания учёбы.

**Выпускник имеет право на:**

1. Работу по своей профессии и специальности.
2. На месячный отпуск после направления на работу и окончания учебного учреждения с выплатой месячной стипендии в размере стипендии, которую выпускник получал в последнем семестре. Этот отпуск предоставляется независимо от того, когда выпускник имел последние каникулы в учебном заведении. Выпускникам, получившим право самостоятельного трудоустройства, такая помощь не предоставляется.
3. Выпускники пользуются всеми льготами и правами, предусмотренными Трудовым кодексом Республики Беларусь.
4. Выпускники имеют право потребовать от нанимателя обеспечения жильём в соответствии с Жилищным кодексом Республики Беларусь.
5. Наниматель, независимо от формы собственности, не имеет право перевести выпускника на работу, которая не связана с полученной специальностью и квалификацией на протяжении двух лет с момента окончания учебного учреждения.
7. Нанимателям, независимо от форм собственности, запрещается на протяжении двух лет после окончания учебного учреждения принимать на работу выпускников государственных высших и средних специальных учебных учреждений, которые обучались за счёт бюджетных средств, без удостоверения о направлении на работу или справки о возможности самостоятельного трудоустройства, а также увольнять выпускников до окончания обязательного срока работы, за исключением увольнения по инициативе нанимателя за виновные действия.

В случае невыполнения установленного порядка приёма на работу и увольнения выпускников государственных высших и средних специальных учебных учреждений наниматель возвращает средства, затраченные на обучение выпускника, в бюджет, из которого осуществлялось финансирование его обучения.

**Что же делать выпускнику, если он не хочет работать по распределению?**

Прежде всего, мы вам советуем не пренебрегать своим правом выбора места трудоустройства во время распределения. Помните, что комиссия по персональному распределению должна рассказать вам обо всех имеющихся возможностях трудоустройства и не вправе отказывать вам в направлении по конкретному месту работы, если место ещё не занято предыдущими выпускниками и если это не персональная заявка нанимателя.

Если же вас всё-таки распределили в места, вас не совсем устраивающие, то предлагаем вам следующую тактику поведения. Во-первых, узнайте, так ли плохо ваше место и есть ли возможность на данном предприятии, учреждении улучшить своё положение и какие льготы вам положены.

Если и здесь ничего интересного вы не выясните, то не спешите жаловаться на несчастную жизнь, а начните искать подходящую работу, которая бы вас устроила. Не спешите увольняться за виновные действия, т.к. хорошая работа у вас от этого не появится, а сроки обязательной отработки будут течь. После того как место найдено, вам предстоит самое сложное. Уволиться по собственной инициативе вы не имеете права, наниматель также не может вас уволить кроме как за виновные действия, т.е.:

1. Систематическое неисполнение работником без уважительных причин трудовых обязанностей, если к работнику ранее применялись меры дисциплинарного взыскания.
2. Прогул без уважительных причин.
3. Появление на работе в состоянии алкогольного, наркотического или токсического опьянения, а также распития спиртных напитков, употребление наркотических или токсических средств на рабочем месте и в рабочее время.
4. Совершения хищения по месту работы.
5. Однократное грубое нарушение правил охраны труда, повлекшее увечье или смерть работника.

После того, как вы уволились, не забывайте, что наниматель будет нести ответственность, если заключит с вами трудовой договор до истечения двухлетнего срока обязательной отработки. Поэтому, чтобы не портить отношения с нанимателем, постарайтесь обезопасить себя и его от финансовых санкций:

1. Вы можете заключить гражданский договор подряда, если характер работы позволяет это сделать.
2. Вы можете обратиться в соответствующий орган министерства образования с ходатайством о получении справки о праве самостоятельного трудоустройства. Процедура хлопотная, но она этого стоит, особенно если вы нашли действительно хорошую работу.

**Правовая студенческая консультация.**



Бюлетэнь «Грамадзянскі форум».
Заснавальнік:
АРМА «Грамадзянскі форум».

Выдаецца на беларускай і рускай мове.
Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранай дакументацыі.
Перыядычнасць - 2 разы ў месяц. Выдадзена накладам 299 асобнікаў.
Памнажэнне - грамадскае аб'яднанне «Ратуша» г. Гродно.
Адрас для пошты: 231100, Ашмяны-3, а/я 63.
E-mail: Civil_Forum@mailru.com

Дабрачынна надрукавана Гарадзенскім абласным аб'яднаннем "Ратуша" пры падтрымцы фонда "Альянс Каунтэрпарт", Камісіі па Дэмакратыі Амбасады ЗША на Беларусі і Нацыянальнага Фонду на карысць дэмакратыі (ЗША).